● ВАША ЗДАРОЎЕ

● ЧАЛАВЕК – ЧАЛАВЕКУ

# Дабрыня таксама лечыць

Калі ідзеш па вуліцы, сустракаеш знаёмых ці незнаёмых людзей з засяроджанымі ад будзённых клопатаў тварамі, міжволі думаеш: „Так, няпроста жывецца сёння ўсім. Але не галадаем пакуль, у тое-сёе апрануты, а значыць, ніштавата яшчэ жывём, няма чаго грашыць. Не было б большай бяды і было б здароўе...”

Асабліва пераконваешся ў такой думцы, калі раптам пераступаеш парог раённай бальніцы, скажам, яе неўралагічнага аддзялення. Бадай што, няма тут такой палаты, дзе б не было цяжкага хворага. Дый трапляюць сюды людзі часта нечакана, аніяк не здагадваючыся яшчэ мо нейкую гадзіну назад, якое няшчасце іх чакае.



Менавіта так здарылася з жыхаркай Быцені Верай Іванаўнай Марочка. Упраўлялася па гаспадарцы, як раптам адчула недамаганне, а хутка і прытомнасць стала губляць. Добра, што побач знаходзілася родная сястра, медык па адукацыі. Разумеючы, якую небяспеку тоіць у сабе немач Веры, жанчына выклікала машыну хуткай дапамогі. Праз нейкіх паўгадзіны хворая была ў неўралагічным аддзяленні раённай бальніцы.

Яе тут жа агледзеў, дастаўлены з дому, загадчык аддзялення Міхаіл Яўгенавіч Дзедавец. Прынятыя на першым часе меры папярэдзілі бяду. Хоць і давялося паляжаць Веры Марочка, але веды і старанне медыкаў зрабілі сваю справу: ачуняла жанчына, праз нейкі месяц, прайшоўшы курс лячэння, выпісалася і сёння з удзячнасцю ўспамінае ўсіх работнікаў аддзялення, пачынаючы ад урачоў і заканчваючы санітаркамі.

Ды хіба толькі адна В. І. Марочка ўдзячна медыцынскаму персаналу неўралагічнага аддзялення? Паступаюць сюды з інсультамі, паражэннямі нервовай сістэмы, паралічамі. З першых жа хвілін пачынаецца нястомная барацьба за жыццё такога чалавека. А ён, нерухомы, бездапаможны, нярэдка пазбаўлены мовы. І толькі вочы хворага напоўнены маленнем і надзеяй на дапамогу.

Сціскаюцца сэрцы медсясцёр, бо ведаюць: што б яны ні рабілі, як ні стараліся, вынік можа быць розны. Толькі не здаюцца медыкі аддзялення, настойліва змагаюцца за жыццё захварэўшага і часцей за ўсё перамагаюць немач.



У неўралагічным аддзяленні працуе сёння калектыў вопытных медыцынскіх сясцёр. Гэта ветэраны медыцынскай справы Вольга Віктараўна Злобіна і Вольга Аляксандраўна Трафімчык, прадстаўніцы маладзейшага пакалення Святлана Папека і Святлана Гапеева. Пра кожную з іх было што сказаць старшай медсястры аддзялення В. Ф. Куіс. Дарэчы, сама Валянціна Фёдараўна працуе ў бальніцы 22 гады. Палову гэтага немалога тэрміну яна з'яўлялася старшай медсястрой вочнага аддзялення, вось ужо год – як у неўралогіі.

– Дзесяць медсясцёр у нашым аддзяленні, – расказвае яна. – Гэта адукаваныя людзі, хоць многія з іх не так даўно закончылі медвучылішча. Возьмем Людмілу Івашкевіч, напрыклад. Старанная ў працы, хуткая, акуратная, добрая яна... Дый пра іншых можна сказаць не менш станоўчага. Цярпліва і міласэрна выконваюць свае абавязкі санітаркі Надзея Канстанцінаўна Віхарава і Валянціна Андрэеўна Шупенік. З любоўю адгукаюцца хворыя пра буфетчыцу Алену Канстанцінаўну Сіткевіч... Вось з такімі людзьмі мы працуем. З добрымі людзьмі, а дабрыня – яна таксама лякарства...

Не пагадзіцца з такім довадам медыка было немагчыма. Бо, як сказаў у свой час Леў Талстой, „дабрыня для душы тое ж, што здароўе для цела. Яна непрыкметная, калі валодаеш ёю, але яна дае поспех ва ўсялякай справе”.

Ад сябе дадам: „А ў лячэнні людзей – асабліва”.

**М. МІКАЛАЕЎ.**



*НА ЗДЫМКАХ: уверсе – старшая медсястра неўралагічнага аддзялення райбальніцы В. Ф. Куіс знаёміцца з толькі што паступіўшай пацыенткай; унізе – за выкананнем лячэбнага працэсу паставая медсястра Надзея Пушыла.*

*Фота А. КАНУННІКАВА.*

● ХОТИТЕ – ВЕРЬТЕ, ХОТИТЕ – НЕТ

# Уговором, заговором...

**Борьба с „зеленым змием” ведется испокон веков. И как одно из средств использовали заговоры.**

Верите вы этому, не верите – ваше дело. Но хотя бы „из любопытства” мы решили несколько популярных в далеком прошлом заговоров опубликовать.

**От (пьянства).** „Во имя Отца, и Сына, и Св. Духа, аминь. Хмель и вино, отступись от раба Божия Н. в темные леса, где люди не ходят, и кони не бродят, и птица не летает.

Во имя Отца, и Сына, и Св. Духа (дважды), хмель и вино выводи на быструю воду, на которой воде люди не ездят, от раба Божия Н. хмель и вино поди на буйные ветры, которой ветер по дальности ходит. Во имя Отца, и Сына, и Св. Духа, привяжись к лихому человеку, который на Н. лихо думает, к тому привяжись, который добра не сделает, от меня вовеки отвяжись. Во имя Отца, и Сына, и Св. Духа, аминь”.

„Заря, зарница, красная девица, сама мати и царица; светел месяц, ясные звезды, возьмите у меня бессонницу, бездремотницу, полуночницу, среди ночи приди ко мне хоть красной девицей, хоть матерью царицей и возьми с меня, отведи от меня окаянную силу, и дай мне Спасову руку, Богородицын замок. Ангел мой, архангел мой, сохрани душу мою, скрепи мое сердце, враг сатана откажись от меня. Крестом крещуся, крестом ограждусь, крестом ангела призываю, крестом лукавого отгоняю. Во имя Отца, и Сына, и Св. Духа. Аминь. Знаю Святые знамения!” (Читается над уснувшим в запое, дабы из запоя вывести).

**(От похмелья).** „Господине еси хмель, буйная голова! Не вейся вниз головою, не вейся вниз головою, вейся в посон (т. е. по направлению движения солнца). Я же тебя не знаю, где ты живешь. Вверх сыра древа влези своему господину в медные бочки и пивныя; как не жить на огне, так на сем человеке лихия словеса (имярек), аще изопьешь чашу сию, доколе мои словеса из меня сии изошли, из его, раба Божия (имярек), похмелье, господине, как царь сядет во царствии своем: тако и ты сиди на месте своем, где родился!”

**(От запоя).** „Ты, небо, слышишь, ты, небо, видишь, что хочу я делать над телом раба (имярек). Тело Марена печень тезе. Звезды вы ясные, сойдите в чашу брачную; а в моей чаше вода из-за горного студенца. Месяц ты красный, зайди в мою клеть; а в моей клети ни дна, ни покрышки. Солнышко ты привольное, взойди на мой двор; а на моем дворе ни людей, ни зверей. Звезды, уймите раба Божия (имярек) от вина; месяц, отврати раба такого-то от вина; солнышко, усмири раба такого от вина. Слово мое крепко!”

Если эти заговоры помогут хоть одному человеку, будем рады.

● АДРАДЖЭННЕ

# Гаворым па-беларуску

*Сцяпан Пятровіч Куніцкі родам з Ляхавіцкага раёна, але вось ужо 19 год настаўнічае ў нашым. Закончыў два інстытуты, быў дырэктарам некаторых школ. Апошнія сем гадоў выкладае родную мову і літаратуру ў Дабрамысленскай СШ. Лічыць, што жыццёвы шлях выбраў правільна і не зверне з яго ніколі. На ўсё жыццё ў ягоным сэрцы засталася шчырая падзяка В. М. Сабалеўскай, М. А. Дзядку, М. Д. Зінкевічу, М. І. Котавай і іншым людзям, якія на пэўным адрэзку часу былі для яго і вернымі сябрамі, і памочнікамі. А вось з Валянцінай Уладзіміраўнай Сакутай, з якой разам елі студэнцкі хлеб, працуе і цяпер. У школе створаны цудоўны кабінет роднай мовы і літаратуры, якую абодва настаўнікі шануюць і берагуць як зрэнку вока. Наш карэспандэнт Л. РУЦІЧ сустрэлася з С. П. КУНІЦКІМ і задала яму некалькі пытанняў.*

**– Сцяпан Пятровіч, як вы адносіцеся да вынікаў прайшоўшага рэферэндуму, на якім беларусы выказаліся за двухмоўе і адкінулі ўбок сваю гістарычную сімволіку?**

– Прэзідэнцкі рэферэндум прадэманстраваў нішто іншае, як наступ на родную мову, на адраджэнне культуры свайго народа. Людзі, напэўна, не думалі, што рабілі, калі кідалі бюлетэні ў урну. Мы самі прынізілі сваю нацыянальную годнасць. Цяпер стаіць пытанне (яно, урэшце, заўсёды стаяла) аб уратаванні роднай мовы. Але гэтае пытанне ніколі не стаіць у нармальнай краіне. Мова – гэта святое для кожнага цывілізаванага чалавека. Так што вынікі рэферэндуму пайшлі, на жаль, не на карысць свайго народа.

**– І ўсё ж думаю, у вясковых школах віхор рэферэндуму пранёсся над галовамі.**

– Трэба адзначыць, што і раней вясковыя школы русіфікацыя асабліва не кранула. З першага і да апошняга класа тут усе прадметы выкладаліся па-беларуску. Не змяніў гэты рытм і рэферэндум, хіба што дабавіў горычы ў душы і жадання прыкладаць усе намаганні для адраджэння сваіх каранёў.

**– У чым гэтыя намаганні праяўляюцца?**

– У пазакласнай рабоце. Праводзіцца нямала тэматычных вечароў, звязаных з народнымі традыцыямі і абрадамі. Напрыклад, наш школьны абрад „Вяселле” (у гасцях у Паўлінкі) абышоў многія вёскі раёна. За яго атрымалі Ганаровую грамату. У такіх спектаклях у нас удзельнічаюць не толькі вучні, але і настаўнікі, тэхработнікі школы. Пастаноўкамі народных абрадаў мы хочам узняць той глыбінны пласт, які ўласцівы ўсяму беларускаму, а значыць, прыгожаму, абудзіць нацыянальную годнасць, падарыць людзям радасць далучэння да ўсяго свайго, роднага. Цяпер, напрыклад, рыхтуемся да вечара, прысвечанага вялікаму беларускаму пісьменніку У. Караткевічу, якога з-за яго прыхільнасці да гістарычных каранёў не вельмі песцілі ўлады.

**– Тое, што ў школе пануе атмасфера любві да роднага, напэўна, нараджае паслядоўнікаў. Ці не прападае праца дарма?**

– Нашы вучні любяць беларускую мову і літаратуру. Выбіраюць і прафесіі, звязаныя з ёй. Так, сёлетняя выпускніца Вольга Карнач стала студэнткай аддзялення роднай мовы і дзіцячай журналістыкі Мінскага педуніверсітэта. У многіх школах раёна працуюць нашы былыя вучні, якія нясуць святло роднага слова.

● МЫ – ПАДРАСТАЮЧАМУ ПАКАЛЕННЮ

## ПАДАРУНАК ШЭФАЎ

*Тры гады чакаў свайго шчаслівага часу музычны інструмент, падораны СШ № 2 г. Івацэвічы шэфамі – устаноўка 15/5. І вось урэшце знайшоўся чалавек – В. А. Байкоў, які стварае ў школе вакальна-інструментальны ансамбль і дыскаклуб, што яшчэ больш ажывіць школьнае жыццё, разнастаіць яго.*

*Л. ГРЫШЫНА.*

● ЗДАРЭННІ

## ПОМСТА НЕ ЎДАЛАСЯ

Трагікамічны выпадак адбыўся нядаўна ў райцэнтры. Жыхары (прозвішчы пакуль не называем) вуліцы Камінтэрна, маючы немалы прысядзібны ўчастак, жылі ў старым доме, а пабудаваны новы дом потым прадалі. Пры гэтым дамовіліся, што новыя гаспадары пакінуць вузкую сцяжынку ўздоўж дома і двара для таго, каб суседка ці былая гаспадыня мела праход на вуліцу. Аднак у хуткім часе дом зноў прадаўся, і новыя ўладальнікі не пажадалі губляць кавалак зямлі дзеля нейкай сцяжынкі для суседкі. Каб кампенсаваць свае зямельныя страты, яны аднеслі свой штыкетнік на яе агарод роўна настолькі, наколькі займае яе сцяжынка да выхаду на вуліцу. Суседка ж не захацела мірыцца з захопам яе тэрыторыі. Падпільнаваўшы, калі яе новыя суседзі адлучыліся з дому, пажылая жанчына разбіла ў ім адно з вокнаў, лінула ў пакой газы і кінула падпаленую паперу. На шчасце побач праходзіў выпадковы прахожы, які пачуў звон разбітага шкла. Агню не далі разбушавацца. Помстлівая ж віноўніца прыцягнена да адказнасці.

**В. МОЛАШ,**
**пазаштатны карэспандэнт „Газеты Уладзіміра Кудзінава".**

## БУЛЬБУ СМАЖАЦЬ, БУЛЬБУ ПАРАЦЬ. І... КРАДУЦЬ

Крадзяжамі ў наш час не здзівіш нікога. Але вось калі прыходзіцца чуць, што аб'ектам крадзяжу стала бульба, то застаецца толькі паціснуць плячыма – зусім людзі сорам згубілі.

Бегаў, хваляваўся чалавек увесну, шчыраваў на сваіх сотках усё лета, корпаўся да цёмнага ўвосень. Клапаціўся, каб надзейна захаваць на зіму. Ды ўсё жыццё хавалі людзі бульбу ад маразоў, а не ад злых рук. Хто думаў, што дойдзе бессаромнасць людская да такой мяжы...

У глухую лістападаўскую ноч з 9-га на 10-га зладзюгі зайшлі на людскія агароды жыхароў вёскі Яглевічы. Разрылі адзін бурт – не спадабалася бульба, перайшлі да другога, трэцяга... Толькі на пятым бурце спыніліся. Бульбу насыпалі ў мяхі і выносілі на дарогу – там чакала машына. Так і перацягалі недзе каля тоны.

А раніцай... Ніхто нічога не чуў, не бачыў, сабакі не брахалі. Хоць некаторыя жыхары вёскі проста ўпэўнены, што сведкі павінны быць – „праца" злодзеяў працягвалася не адну гадзіну. Але ніхто пакуль не спяшаецца звяртацца да нас з нейкімі звесткамі. І вельмі дарэмна. Адной міліцыі без дапамогі жыхароў гэтых злодзеяў злавіць будзе вельмі цяжка, а крадзеж бульбы з буртоў у вёсцы Яглевічы ўжо не першы, а трэці.

Гэта гаворыць не толькі аб нахабнасці, дзёрзкасці злодзеяў, а і аб тым, што палюбілася многім людзям прымаўка: „Мая хата з краю".

І вельмі шкада, што менавіта гэтая.

**А. КАЗАК,**
**участковы інспектар Івацэвіцкага РАУС, старшы лейтэнант.**

## НЕ РАЗГУБІЛІСЯ

Было гэта 13 лістапада, у панядзелак. Нешчаслівая лічба і цяжкі дзень. Народныя прыкметы ледзь не спраўдзіліся для жыхароў аднаго з дамоў вуліцы Дольнай райцэнтра. Уладальнік дома у другой палове дня адлучыўся, каб прыглядзець асабістую гаспадарку, пакінуўшы ў пакоі ўключаны тэлевізар „Гарызонт". Праз 15–20 хвілінаў да яго данесліся крыкі суседзяў аб пажары. Кінуўшыся да свайго дома, ён убачыў, што з яго валілі клубы чорнага дыму. Ні гаспадар, ні яго суседзі не разгубіліся. Імгненна адключылі тэлепрыёмнік з электрасеткі і залілі яго вадой. Агонь быў патушаны да прыезду пажарнай.

**В. СЯРГЕЙЧЫК.**

● ЧАС, ВЕЧНАСЦЬ І МЫ

# АДЧЫНЕНА НЯДЗЕЛЬНАЯ ШКОЛА

Выраз „нядзельная школа" стаў гістарычным. Дзякуючы атэістычнаму выхаванню, мы ўжо і забылі аб іх даўнім існаванні. Але, дзякуючы энтузіястам, такая школа запрацавала ў Івацэвічах. Праведзена некалькі заняткаў. На адным з іх даваўся папрысутнічаць і ўбачыць усё на свае вочы.

Па-першае, адчынена нядзельная школа на кватэры мужа і жонкі Аляксандра Аляксандравіча і Таццяны Васільеўны Кнышоў. На новую жылплошчу яны толькі перабраліся. Работы безліч, але нягледзячы на гэта, гаспадары не шкадуюць ні часу, ні памяшкання для важнай, на іх погляд, справы.

Спачатку займалася група, у якую ўвайшлі дзеці 7–9 год. Гэта былі хлопчыкі. І было іх пакуль няшмат, але нават перад гэтай невялічкай аўдыторыяй Таццяна Васільеўна задушэўна і пранікнёна апавядала аб стварэнні Богам зямлі і ўсяго жывога на ёй. Расказ суправаджаўся жывым кантактам з дзецьмі, якія разважалі, непрымусова адказвалі на пытанні. Але, бадай, цэнтрам увагі быў установлены перад імі, як кінаэкран, фанограф. На іх белым палатне па меры працягу біблейскага расказа з'яўляліся неба, вада, зямля, дрэвы, кветкі, сонца, месяц, зоркі, птушкі, звяркі... Малюнкі мяняліся адзін за адным. Іх няцяжка было ствараць, бо ў карабку імпартнага фанографа мелася мноства незвычайнай яркасці дэталей для гэтага – і звяркі, і птушкі, якія дзякуючы аксаміцістасці, лёгка прыставалі да фанографа і радавалі вока. Дзеці падыходзілі да экрана, краналі прыгожых істотак рукамі, адказвалі на пытанні, якія з іх дзікія, а якія свойскія? А настаўніца пакрысе рухала падзеі наперад, адкрывала штосьці новае. Расказ быў завершаны на момансе з'яўлення першых людзей на зямлі – Адама і Евы. „Гэта адбылося на шосты дзень, а на сёмы Бог адпачываў ад вялікай работы, таму трэба і нам адпачываць у гэты дзень, – гаворыць Таццяна Васільеўна, – а аб тым, што было далей, даведаемся ў наступны раз".

Урок закончаны, але хлопчыкі не спяшаюцца разыходзіцца, разглядаюць шматлікія кніжкі для чытання і размалёўвання. Яшчэ адна настаўніца – Марына Іванаўна Голуб – праводзіць з імі гульню.

З другой групай дзяцей, у якую ўваходзілі дзяўчынкі і хлопчыкі ва ўзросце 10–13 год, працавала Святлана Серафімаўна Кулініч. Размова вялася на тую ж самую тэму, але з больш глыбокім яе асэнсаваннем. Апавяданне аб божым тварэнні, якое ўвабрала ў сябе багацце творчай фантазіі і мыслення, гучала пранікнёна, задушэўна, на высокім інтэлектуальным узроўні. Міжволі ўзнікала думка аб вялікай карысці, аб тым добрым семені, якое кідалася ў дзіцячыя душы. Гаварылася аб усім добрым, светлым, бо калі Бог быў бы злым, хіба стварыў бы ён такую прыгажосць. А малюнкі, адзін прывабней другога, мяняліся на фанографе.

Згодна са свяшчэнным пісаннем, Ісус вялікую ўвагу надаваў дзецям, прызнаваючы іх чысціню і святасць. „Жыць у святасці" – гэтай светлай мэце і прысвечаны ўрокі ў нядзельнай школе. Вывучэнне хрысціянскай Біблії, Ветхага і Новага Запаветаў у кананічным перакладзе будзе працягвацца далей і ахопіць 175 тэм, якія раскажуць аб жыцці Ісуса, якое даўно вядома, як самая цудоўная гісторыя ў свеце.

У доме Кнышоў шмат дадатковай літаратуры, якая стане дзецям добрым дапаможнікам. Ёсць дзіцячыя хрысціянскія часопісы „Сцяжынка", якія выдаюцца місіянерскім саюзам „Свет на Усходзе", кніга Пола Батлера „Як звяртацца да дзіцячых сэрцаў?", гісторыі і малітвы пад агульнай назвай „Мае каханыя", выдадзеныя для дзяцей у Англіі, евангельскія прытчы Ісуса Хрыста, расказы Ярослава Чумака і многае іншае. Уся гэта літаратура мае цудоўнае паліграфічнае афармленне, аздобленая яркімі малюнкамі.

Пасля ўрокаў дзеці развучвалі песенькі пад фартэпіяна. Наогул уся атмасфера іх навявала нешта чыстае і светлае. У адносінах паміж настаўнікамі і вучнямі скразіла далікатнасць, быццам нельга было ў атмасферы дакранання да святыні гучна гаварыць. Мяркую, што ўрокі ў нядзельнай школе будуць выхоўваць у дзяцей добрыя манеры, культуру зносін.

Школа, як мне сказалі, пачала свой пробны год. Без пэўнай базы, вядома. Зарплату настаўнікам ніхто выдаваць не будзе. Уся іх работа пабудавана на шчырых імкненнях абудзіць інтарэс да таго, да чаго яны самі ўжо далучыліся, да таго, ад чаго нікому не будзе кепска. Хутчэй наадварот.

Пакідала я гэту школу з лёгкім пачуццём. І размаўляць чамусьці хацелася на паўтона ніжэй. Здзівілася, як хутка добрае ўражвае чалавека. Таму спяшайцеся па добрыя і светлыя перажыванні ў нядзельную школу па адрасе: г. Івацэвічы, вул. Чарткова, 51, кв. 44, тэлефон 2-33-92.

Працуе яна па нядзелях з 12 гадзін дня.

**Л. ГРЫШЫНА.**

● СПЫНІСЯ, ІМГНЕННЕ



*Лебядзінае возера.* *Фотаэцюд М. КАШКА.*



● УСМІХНЁМСЯ

## З краіны дзяцінства

### НЕЧАКАНАЕ ПЫТАННЕ

*– Вой, якая ў цябе прыгожая спаднічка!..*
*З гонарам:*
*– А я?*

### АДХОДЫ

*– Я малака не люблю, – шчыра прызнаецца Ленка. – Толькі адходы з-пад яго.*
*– Дзіўна! А якія ж бываюць адходы ад малака?*
*Выпрамілася, падняла плечыкі, выдыхнула:*
*– Смятанка і тварог.*

### КАЛІ ЗАКОНЧЫЦЬ

*Маленькая Светка рэжа дробную цыбулю, а ў талерцы пачышчаная ляжыць. Прыўзнялася, каб пабачыць, колькі там яшчэ трэба, дый кажа:*
*– Каб закончыць, давядзецца яшчэ трохі паплакаць!*

### У ШКОЛЕ

*На дошцы выдатнікаў упершыню ўбачыла Наташка свой фотаздымак. Падышла бліжэй, адышла, з боку на сябе паглядзела і ўсміхнулася добразычліва:*
*– Ну, няхай цяпер маё адлюстраванне за мяне і вучыцца!*

**Ф. МАКАРЭВІЧ.**
**в. Быцень.**

Газета выдаецца на беларускай і рускай мовах. Набіраецца ў Івацэвічах, друкуецца ў Баранавіцкай друкарні (г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80). Выходзіць два разы на тыдзень: у сераду і суботу.
Фармат 420х300 мм. Аб'ём – 1 друк. аркуш.
Падпісана да друку 20 лістапада ў 14.00.

ЗАСНАВАЛЬНІК: гандлёва-прамысловая фірма „Івацэвічы"
Рэгістрацыйны нумар 1147.

Рэдактар Лідзія ЦАЛУЙКА.

НАШ АДРАС: 225250, г. Івацэвічы, вул. Свярдлова, 5, рэдакцыя „Газеты Уладзіміра Кудзінава". Тэлефон 2-12-09.

Рукапісы і здымкі не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца. Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні і выказванні могуць не супадаць з пунктам гледжання рэдакцыі і не накладваюць на яе ніякіх абавязацельстваў. Пры перадрукоўванні спасылка на нашу газету абавязковая.

Індэкс 63959. Тыраж 2.000 экз. Заказ № 2157.